Opłata pocztowa opłacona ryczałtem. Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 26. Вільня, 14 верасьня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Ціхая вуліца № 4, (альбо Міцкевіча № 15) кват. № 20. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8 — 20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## Да творчае працы.

Апошнія выбары да самаўраду служаць яркім доказам таго, што ў беларускай масе разьвіваецца і паглыбляецца працэс нацыянальнага ўсьведамленьня.

Гэта павінна адчыніць вочы, парушыць сумленьне і змусіць польскае грамадзянства зравідаваць і ў корані зьмяніць пагляд на беларускае пытаньне.

Беларуская справа, справа народу, які адраджаецца і які воляй лёсу падзелены прагавітымі суседзямі, даўно дасьпела, каб быць пастаўленай на парадак дня ў дзяржаўным жыцьці Польскае Рэспублікі.

Дзяржаўныя мужы Польшчы, асабліва сучасны прэм'ер маршалак Пілсудскі, зьвязаны паходжаньнем з Заходняй Беларусяй, павінны зьліквідаваць палітыку адносна беларусаў, якая вялася эндэцыяй ў супалцы з мясцовымі абшарнікамі.

Выбары ў Сойм 1922 г., сёлетнія выбары ў самаўрад, школьныя „плебісцыты“ — ўсе гэтыя факты варты найглыбейшага аналізу і об'ектыўнага да іх падходу. Усё гэта яркі доказ нязьменнай, непраломнай і творчай сілы ў Беларускім Народзе, які мае перад сабою жыцьцё, а ня сьмерць, як прарочыць эндэцыя.

Некалькі гадоў жыцьця ў межах Польшчы навучылі беларусаў аднаго — патрэбы гуртавацца каля сваіх, мясцовых, нацыянальна-родных групаў, бяручы ў падазронасьць усіх, хто ня тутэйшы і не беларус.

Мы ня верым у праўдзівасьць тых, хто кажа, што для беларускай вёскі створыць пажаданыя абставіны жыцьця камуністычная доктрына, мы ня верым у магчымасьць яснае будучыны для Беларусі ў лучнасьці з бальшавіцкай, ці іншай якою Масквою. Ведаем і верым, што камуністычны лад, дыктатура партыі, ці вярней клікі людзей у Маскве, ня можа быць прынята беларускім сялянствам з яго разважнай, спакойнай псыхікай, прывыкшай да ладу і пашаны ўласнага куска зямлі, да разумнага аўторытэту і соцыяльнай справядлівасьці.

Хваляваньне настрояў у Заходняй Беларусі зроджана палітыкай эндэцыі і прошлых польскіх урадаў, якія вялі офэнзыву (наступ) на адвечныя пазыцыі беларускага народу: яго мову і зямлю.

Урады пасьля маёвага перавароту здаецца зразумелі, што кіраваць дзяржаўнымі справамі паводле сталыпінскага: „перш успакаеньне, пасьля рэформы“ ня можна, што кіраваньне такое зьяўляецца калі не праступкам, то вялікім глупствам.

Мы бачым, што ў адносінах Ураду да беларусаў цяпер нешта перамянілася, нешта робіцца, каб паправіць абмылкі прошлага. Але робіцца зашмат паволі, з вялікімі аглядкамі, з нейкай баязьняй, так што, з боку гледзячы, атрымліваецца ўражаньне, быццам злыя духі прошлага яшчэ носяцца над усёй гэнай працай і не даюць магчымасьці наладзіць яе належным спосабам.

Аднак, ня гледзячы на заблутанасьць дadносін, яны могуць і павінны быць выясьнены і вырашаны з карысьцяй для Польскай Дзяржавы і дабром для Беларускага Народу.

Выбары ці то ў Сойм, ці як нядаўна, ў самаўрад, выяўляючы Волю Народу, вядуць да гэнае разьвязкі.

Стаўшы да працы ў самаўрадзе, беларусы павінны памятаваць адно: на дзейнасьць іх зьвернена ўвага выбаршчыкаў, усе іх надзеі на паправу гаспадарчага жыцьця ў воласьцях, паветах і мястэчках нашых.

Перш за ўсё, аднак, выбранцы ня могуць аддзяліцца каменнай сьцяною ад сваіх выбаршчыкаў. ад тых з чые волі і давер'я ўвайшлі ў валасныя, мястовыя і паветовыя рады.

У воласьці войты і радныя беларусы. пазнаёміўшыся з сваімі правамі і абавязкамі, якія ім дае — з аднаго боку, а накладае з другога — права і законнае распараджэньне ўлады, мусяць, моцна стоячы на грунце сваіх правоў, лёяльна выпаўняць свае абавязкі. Пры гэтым павінны помніць, што на становішчах сваіх знайшліся з волі народу, выбаршчыкаў, і гэта надае ім павагу і вялікую моральную перавагу перад усімі ўрадоўцамі, назначанымі на свае пасады. Але гэны іх характар даверaных людзей накладае на выбранцаў абавязак заўсёды сьмела выступаць у абароне правоў і маемасьці сваіх выбаршчыкаў.

Валасная Рада мае шырокае поле дзейнасьці. Дарогі ў воласьці, будова школаў, сьцягваньне падаткаў, іх расклад, дапамога ў сялянскай гаспадарцы і г. д. — усё гэта ўваходзіць у дзейнасьць Рады. Яна павінна, як добры гаспадар, кіравацца разумнай ашчаднасьцяй: глядзець ці на належныя патрэбы ідуць выдаткі, ці не марнуюцца народныя грошы, ці будова дарог і школаў вядзецца разумна і гаспадарна, ці ня псуецца матар'ял, ці не раскрадаюцца і не марнуюцца дарма грошы.

Рада можа і павінна забіраць голас у тым, якія адносіны паліцыі да насельніцтва. І ў гэтай справе голас Валаснoe Рады ня можа быць ня выслуханы.

У гэтай галіне Валасная Рада будзе бараніць выбаршчыкаў перад бясправаем, да чаго мае вялікі абавязак.

Валасная Рада мае дбаць, каб воля выбаршчыкаў у галіне школьнай была ўшанована. Яна можа і павінна не дапусьціць, каб паўтаралася тое, што мела месца, калі войты адмаўляліся сьцьвярджаць подпісы на дэклярацыях аб беларускіх школах, або бралі за пацьверджаньне гэтых подпісаў грошы.

Радныя, даючы валасныя грошы як дапамогу на школы, мусяць кіравацца гаспадарчай справядлівасьцяй, даваць на школы беларускія, ня толькі на польскія, як было дагэтуль. Валасная Рада павінна і можа выносіць пастановы аб патрэбе роднае беларускае школы і на будову гэных школаў адпускаць грошы і інш.

Да абавязкаў радных належыць дбайнасьць аб адносінах валасных служачых да насельніцтва. Дагэтуль частым зьявішчам было тое, што валасны пісар лічыў сябе за вялікага пана ў воласьці і трудна было дабіцца ад яго выясьненьняў у якой-колечы справе. Урэшце тое самае рабілі і войты. Валаснoe ўпраўленьне ўмела адно—сьцягваць падаткі, ні ў чым не аблягчала выбаршчыка. Ён перш за ўсё мусіў прасіць, і то доўга, каб атрымаць пасьведчаньне ці найменшую спраўку, а без пачастунку яе не даставаў. Радныя беларусы маюць вялікі абавязак гэтыя практыкаваньні вывясьці з моды. Яны павінны пільна і ўважна прыслухоўвацца, якія адносіны валасных служачых да інтэрэсантаў, і ўсялякія надужыцьці выяўляць і цягнуць вінаватых да адказнасьці.

Рада ўрэшце павінна ўвясьці ў валасным упраўленьні той парадак, каб давалі тлумачэньні і спраўкі ў зразумелай для інтэрэсантаў мове.

Ведама, ўсё гэта можна рабіць, апіраючыся на знаёмасьць правоў, якія даюцца радным законамі, з аднаго боку, а з другога, маючы падтрыманьне з боку выбаршчыкаў, паслаўшых выбранца ў самаўрад. Дзеля гэтага радны беларус павінен заўсёды быць у цесным контакце з выбаршчыкамі. Ён мусіць дакладна выясьняць у сваім вокрузе аб працы Валасное Рады і аб абавязках і правох выбаршчыка.

Толькі, здаючы справаздачу з усяго, што робіцца ў воласьці і пільна сочачы за патрэбамі насельніцтва і спосабамі іх задаваленьня ў межах дзейнасьці самаўраду, будзе выпаўнены абавязак, які налажылі выбаршчыкі на свайго выбранца.

Інакш ён утраціць усялякую апору і давер'е ў народзе, а разам з гэтым і значэньне на грунце Валасное Рады, дзе з голасам яго перастануць лічыцца. Сіла выбарных якраз у гэтым падтрыманьні масы і давер'і яе да іхняе дзейнасьці, бяз гэтага ізноў будзе ў воласьці вясьці рэй пісар і войт, а Рада стане нічога ня значачым многагаловым лішнім зборышчам.

# Канец місыйнай працы ксяндза Бародзіча ў Леанполі.

Не адзін раз ужо падыймалася справа, што найчасьцей найбольшымі шкоднікамі для спакойнага жыцьця на нашых землях зьяўляюцца неадпаведныя людзі, якія займаюць часта адказныя становішчы.

Напружаныя адносіны беларускага жыхарства да польскіх уладаў, незадаваленьне, якое пануе, ў значнай меры тлумачыцца адносінамі ўрадоўцаў, якія або ня могуць, але найчасьцей ня хочуць, зразумець асаблівых варункаў жыцьця на нашых землях. Ясная справа, што тое, што ёсьць добрым для чыста польскіх абшараў, не заўсёды можна прышчапіць у нас і наадварот. Да таго, трэба дадаць, што на гэтак званыя „Kresy“ ішлі часта людзі скампрамітованыя, якім ня было месца ў этнаграфічнай Польшчы. Іх адносіны да беларускага селяніна, ня толькі ня ўносілі патрэбнага супакою, але наадварот паглыблялі той антагонізм, які зрадзіўся між беларускім сялянствам і польскімі ўладамі. За апошні год адбыліся тут некаторыя зьмены на лепшае. Шмат урадоўцаў адыйшло. Але яшчэ шмат ёсьць такіх, якія нічога добрага ня ўносяць, каб сужыцьцё народаў палепшыць. У гэтай галіне шмат асталося да папраўленьня. Усё гэта датычыць адміністрацыйных і школьных уладаў. Але ў апошнія часы і ў галіне рэлігійнага жыцьця пачалі дзеяцца рэчы, якія непакояць грамадзянства. Перш за ўсё справа уніі часта трапляла ў неадпаведныя рукі.

Унія ня можа мець на мэце ніякіх часовых мэтаў, тым больш палітычных. Гэта ідэя вялікая. Ня можна шырыць ідэі уніі так, як гэта робіць кс. Леснабродзкі. Публічныя рэфэраты—выступленьні гэтага ксяндза, найчасьцей ператвараюцца ў звычайныя, поўныя дэмагогіі, мітынгі. Уніяністычная работа павінна вясьціся ціха, без усялякіх гучных і бліскучых слоў і дзеяньняў. Кс. Леснабродзкі і іншыя былыя праваслаўныя духоўнікі, справу уніі на нашых землях адцягваюць, а сваімі дэмагогічнымі выступленьнямі якраз завастраюць рэлігійныя антагонізмы, што бязумоўна ёсьць зьявай вельмі шкоднай. Аб шкоднасьці такой уніяністычнай працы для беларускае справы ўжо ня раз гаварылася.

Далей, беларускае грамадзянства адчувае несправядлівасьць, якая дзеецца над некаторымі беларускімі ксяндзамі: прыкладам кс. Гадлеўскі. Не ўваходзячы ў крытыку матываў прысуду, бо нельга крытыкаваць судовых прысудаў, мусім адзначыць, што, на моцы конкордату, духоўны асуджаны на кару крэпасьці, у гэтым выпадку на два гады, павінен адбываць кару ў кляштары. Тымчасам кс. Гадлеўскі сядзіць ў Макатоўскай турме. Дзе-ж конкордат, на які часта любяць паклікацца. Нядаўна сяляне Жодзіскае воласьці падалі пэтыцыю Прэзыдэнту Рэспублікі, падпісаную некалькімі тысячамі людзей, у якой просяць звольніць ксяндза Гадлеўскага з вастрогу. Ці дасьць які рэзультат пэтыцыя, трудна прадбачыць. Далей, справа кс. Шутовіча, няўстанная зьвяга на старонках „Dziennika Wileńskiego“ проціў беларускага духавенства і „Krynicy“ — ўсё гэта кідае прыкрыя цені на справу добрых рэлігійных адносін. А афэра кс. Бородзіча, ў справе якога інтэрвэньяваў арцыбіскуп толькі ў апошнюю мінуту, калі ўжо былі на месца да Леонполю высланы дэлегаты адміністрацыйнай і судовай улады, якія хіба пацьвярдзілі ўсе закіды, робленыя кс. Бародзічу?

Кс. Бародзіча ўжо даўно не павінна быць у Леанполі. Прынамсі пасьля таго, як ён падаў арцыбіскупу свой мэморыял, які яго павінен быў у вачох высокага каталіцкага духоўніка здыскваліфікаваць. Бо што-ж ёсьць у тым мэморыяле? Акалічнае жыхарства, сярод якога вядзе працу кс. Бародзіч, ён характарызуе, як людзей „o bandyckich poglądach“.

Беларусам ксяндзом закідае, што яны выразна спагадалі і тварылі грамадаўскія гурткі. Далей гаворыцца ў мэморыяле, што акалічнае жыхарства там, што раз, то больш дзічэе, і ня тоіцца ад сваіх бальшавіцкіх сымпатыяў.

Тон мэморыялу і пэўнасьць у тым, што толькі праца яго, кс. Бародзіча, ёсьць добрай, ня маюць граніц.

Адразу падняліся галасы проціў дзейнасьці кс. Бародзіча. Галасы перасьцярогі, не далі ніякага рэзультату. І гэта ня гледзячы на тое, што праца вялася ў пагранічнай паласе, дзе трэба вялікага такту, якога кс. Бародзіч ня меў ані трошкі. Ксёндз Бародзіч — гэта заўзяты вораг беларусаў. У гэтым няма сумліву. Кс. Бародзіч паехаў у Леанполь папраўляць крыўды, якіх дазналі уніяты і каталікі ад царскіх уладаў і ад праваслаўя. Але спосабы паправы гэтых крыўдаў сталі новымі крыўдамі. Кс. Бародзіч стаўся духам неспакою. Разгарэўся фанатызм адных і другіх. Праваслаўныя, маючы за сабой поўныя падставы, пачалі бараніцца проціў расфанатызованай жменькі каталікоў на чале з кс. Бародзічам. Пачаліся гвалты. Ня будзем апісваць усіх гвалтаў кс. Бародзіча. У апошнія мінуты свайго пабыту ў Леанполі ў прысутнасьці арцыбіскупа, які прыехаў распазнаць справу на месцы, кс. Бародзіч з патосам мучаніка кажа, што вяртаюцца „мураўёўскія часы“. Тое, што паліцыя, як і наагул улады, стала ў абарону крыўджаных праваслаўных, кс. Бародзіч называе „мураўёўшчынай“.

Ці-ж трэба лепшых і яскравейшых фактаў?

Місія кс. Бародзіча ў Леанполі скончылася. Назначаны туды іншы, больш адпаведны, духоўнік. Але кс. Бародзіч засеяў у Леанполі свой засеў. Шкодны гэта засеў. Зло, якое зрабіў кс. Бародзіч у працягу некалькіх месяцаў, трэба будзе папраўляць цэлыя гады. І для чыйго дабра ён там быў пасланы? Напэўна не для дабра каталіцкага касьцёлу і уніі.

Беларусы ня раз прасілі і дамагаліся, каб справы чыста рэлігійныя аддзяляць ад справаў палітычных.

Афэра кс. Бародзіча ёсьць яскравым доказам, як шкоднымі зьяўляюцца ўсялякія палітычныя мэты ў рэлігійным жыцьці. Адна ёсьць праўда неадзоўная, што да сумленьня беларускага селяніна трэба зьвяртацца перш за ўсё за пасярэдніцтвам беларуса - ксяндза, або за пасярэдніцтвам тых духоўнікаў, якія пазбавіліся фанатызму, а самі здолеюць нясьці Слова Божае ў найчысьцейшай форме, без якіх-колечы „зямных“ дабавак. Інакш „Леанполі“ будуць паўтарацца, а ўсе мы зацікаўлены, каб тое, што адбылося ў Леанполі, больш не паўтарылася.

*Н.*

## Яшчэ аб справе школьнае палітыкі.

Беларускае грамадзянства ў барацьбе за школу ў сваёй роднай мове дамагалася і дамагаецца ад Ураду Польскае Дзяржавы адчыненьня беларускіх школ за ўрадовыя грошы з правамі польскіх урадовых школаў, адным словам, дамагалася і дамагаецца ўрадовае беларускае школы. Беларускаму грамадзянству здавалася, што поўная рэалізацыя гэтых дамаганьняў вырашыла-б гэтак балючую ў нас справу беларускае школы, даючы магчымасьць з аднаго боку нашай беларускай моладзі вучыцца ў роднай мове, з другога-ж боку стварыла-б поле для працы беларускаму настаўніцкаму пэрсоналу, які цяперака жыве ў цяжкіх матар'яльных варунках, ня маючы за што зачапіць рук, альбо вядзе напалову галоднае існаваньне ў некалькіх бекарускіх прыватных школах і гімназіях, якія, ня маючы пэўнага і сталага грашовага забясьпечаньня, ня могуць аплаціць, як трэба, свой пастаўніцкі пэрсонал. Гэтак думае беларускае грамадзянства і напружвае ўсе сілы, каб здабыць сваім дзеткам школу ў роднай мове сваіх бацькаў.

Але ня гэтак думае „Сялянская Ніва“. У сваім уступным артыкуле за 7 верасьня „Сялянская Ніва“ вустамі пана Скаргі кажучы аб чутках, якія насіліся аб грашовай дапамозе Ураду для Віленскай Беларускай Гімназіі і прызнаньні гэтай гімназіі праваў урадовай гімназіі заяўляе:

„Праўда, тады (калі-б гімназія стала ўрадоваю *Рэд.)* вучні гэтай гімназіі мелі-б правы і маглі-б выкарыстаць іх для таго, каб вучыцца далей у польскіх унівэрсытэтах. Гэта можа і было-б карысна некаторым вучням, але-ж нашай Бацькаўшчыне-Беларусі была-б вялікая страта. Як-ніяк, а беларус, скончыўшы польскую (пад словам *польскую*, трэба разумець урадовую, беларускую, бо гутарка ідзе аб гімназіі беларускай, якая адтрымала-б дапамогу ураду. *Рэд.)* гімназію і ўнівэрсытэт, нахапаўся-б хоць *трошкі* (курсыў наш) польскага духу. І калі ня стаў-бы рэнэгатам (былі-б і гэтакія здарэньні) дык паляна-філам пэўна зрабіўся-б у знаэнай меры. Ясна, што ад гэтага Беларусі лепш ня было-б. Цяпер-жа (гэта знача ў тых варунках, калі гімназія, не адтрымаўшы дапамогі, засталася-б прыватнай *Рэд.)* справа стаіць іначай: той, хто ня мае прыязьні да Беларусі, адразу ідзе ў польскія школы, а хто лічыць патрэбным працаваць выключна на карысьць Бацькаўшчыны, дык здабывае веду ў сваёй роднай школе“.

Дык вось бачыце, грамадзяне, паводлуг пана Скаргі змаганьне вашае за ўрадовую беларускую школу — гэта карысьць толькі для вашых дзетак, а для Бацькаўшчыны-Беларусі вялікая страта. А чаму страта? А страта таму, што дзеткі вашыя могуць нахапацца *хоць трошкі* польскага духу. Цяпер далей: паводлуг „Сял. Нівы“, дзетак сваіх цяперака вы пасылаеце ў польскія школы не дзеля таго, што беларускай школы няма, альбо калі ёсьць гэтыя школы, дык вы ня можаце пасылаць да іх, бо яны далёка, бо няма ў вас грошай, каб заплаціць за ўтрыманьне дзіцяці, але дзеля таго, што ня маеце прыязьні да Беларусі. Бо, паводлуг „Сялянскае Нівы“, той, хто мае прыязьнь да Беларусі і лічыць патрэбным працаваць выключна на карысьць Бацькаўшчыны — дык здабывае веду ў сваёй роднай школе, альбо... застаецца цёмным. Так, паводлуг „Сялянскае Нівы“, калі б вашыя дзеткі засталіся цёмнымі, дык страты для Бацькаўшчыны-Беларусі ня было, страцілі-б толькі... вашыя дзеткі.

Дык вось бачыце, грамадзяне: Паводлуг „Сялянскае Нівы“ Беларускі Народ і Бацькаўшчына-Беларусь усё роўна, як рускі з французам у прыказцы, якая кажа: „Што рускаму здарова, то французу сьмерць“. Што добра і карысна беларускім дзеткам,

---

## Голка*).

*Расказ.*

— Табе неспадзевана будзе пагражаць сьмерць. Дык сьцеражыся! калі выкруцішся ад яе, дык здабудзеш сваё шчасьце і ўсё будзе добра; сьцеражыся таксама валета бубновага — ён зайздруе табе, і будзе табе шкодзіць.

Такі быў адказ варажыхі.

І вось цяперака, зьбіраючыся на імяніны, пан Харашэўскі соты быць можа раз прыпомніў сабе гэную варажбу і задумаўся.

— Будзе пагражаць сьмерць. Калі вывярнуся ад яе, дык усё будзе добра, — знача магу і ня выкруціцца . . . тады што?

І ён бачыў сябе ўжо мрацом: ляжыць у труне, вокал сьвечкі, людзі сабраліся, ксёндз пяе малітвы, а ў кутку Антося ціха плача.

— Ня плач, Антося,—шапоча пан Харашэўскі,—я не памру, усё будзе добра, набрахала баба аб гэнай сьмерці.

Вось зараз еду да цябе „птушачка мая залатая“, зараз і Гадаўскі прыдзе і Каштанку ўжо запрагаюць. І думка пана Харашэўскага праз шчарсоўскія вароты, праз ліпавую алею, праз засланае глыбокім сьнегам поле, палящела ў Адамполь, дзе цяпер гасьціла, прыехаўшая на Каляды, Антося. Ён бачыў сябе, як на шпаркай Каштанцы, запрэжанай у маленькія саначкі, імкнець па дарозе, ўсеянай мільёнамі аганькоў, гуляючых крышталамі сьнегу ў праменьнях поўнага месяца, ён відзіць, як быццам набягае на яго далёкі лес, маладыя хвоечкі выцягваюць да яго свае галіны, быццам хацелі затрымаць яго, і разгневаныя тым, што здабыча ўцякае з іх рук, б'юць яго па твары, абсыпаюць белым пушыстым сьцюдзёным сьнегам. Гэй, лес, гэй, хвойкі маладыя! ці-ж у моцы вашай затрымаць таго, каго нясуць крыльля каханьня?!

Бяжыць Каштанка шпарка, выкідаючы капытамі камы сьнегу, скрыпяць палазы, лес маркотны застаўся далёка. Вось уехалі на ўзгорак, адтуль відаць ужо агні Адамполю і на сінім, усеяным зоркамі, небе вырысоўваецца комін бровару, далей іншыя будыніны, яшчэ хвіліна, — Каштанка ўбягае ў вароты і, зрабіўшы кола, затрымалася пад ганкам. Дзьверы скрыпнулі і з хаты выйшла нейкая жаноцкая постаць.

— Гэта яна—Антося, шапоча сэрца,—гэта яна, Антося,—шапочуць ледзь чутно губы пана Харашэўскага.

Ён птушкай вылятае з саняў, прабягае некалькі сходкаў ганку.

— Ах, гэта пан?!—шапоча Антося.—Я, я . . . панна Антося, — і ён выцягнуў руку і знайшоў руку панны Антосі, мягкую, цёплую, пацалаваў яе. Антося стаіць, маўчыць, толькі ўсьмяхаецца ды паз рае сваімі незабудкамі - вачамі, быццам маніць, быццам чакае чагосьці. Ці можа быць,

*) Гл. пачатак у № 25.

што карысна беларускаму народу, тое паводлуг „Сялянскае Нівы“ вялікая страта для Бацькаўшчыны-Беларусі.

Што Беларускі Народ і Беларусь „Сялянскае Нівы“ запраўды дзьве супярэчнасьці, два антыподы, ў гэтым няма нічога дзіўнага. Бо Беларускі народ, які хоча мець за тыя грошы, што ў постаці падаткаў плаціць польскаму ўраду, беларускую ўрадовую школу, школу з усімі правамі, адчыняючымі доступ да вышэйшай эдукацыі, такі беларускі народ гэта запраўды вораг Беларусі, створанай „Сялянскай Нівай“.

У такім народзе не знайдуць жыру палітыканы „Сялянскае Нівы“, паставіўшыя сваёй мэтай не дабро народу, не яго карысьць, а трыманьне яго ў стане бязупыннай барацьбы з усім, што мае хоць *трошкі польскага* духу, ці то будзе унівэрсытэт, ці нават урадовая беларуская школа.

Бо толькі ў вострай барацьбе двух братніх народаў чэрпае свае сілы „Сялянская Ніва“, а беларускі народ, здаволены ў сваіх культурных і нацыянальных імкненьнях у межах Польскае Дзяржавы — гэта сьмерць для „Сялянскае Нівы“.

Не! не такое ўжо дурное нашае сялянства, каб будаваць Беларусь паводле рэцэпту „Сялянскае Нівы“. І таксама ў змаганьні сваім за беларускую школу, ня пойдзе шляхом, на які кліча яго „Сялянская Ніва“, а будзе далей дабівацца ўрадовае беларускае школы і даб'ецца яе.

*К. П.*

Рэдакцыя месячнае часопісі

**„БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА“**

просіць рукапісы накіроўваць па адрэсе:

**Ціхая вуліца, № 4—20.**

# Апошнія навіны.

## Няўдалая рэвалюцыя ў Літве.

9.IX.27 г. група ўзброеных рэвалюцыянэраў здабыла м. Таўрогі. Рэвалюцыянэры захапілі ўсе дзяржаўныя будынкі, разброілі паліцыю. Места Таўрогі аставалася 12 гадзін у руках рэвалюцыянэраў. Урад выслаў проціў рэвалюцыянэраў войска, якое здабыло места. Паўстанцы захапілі з аддзелу Дзяржаўнага Банку 200.000 літаў і 3.000 даляраў. Арыштована 100 асоб. Галоўныя правадыры ўцяклі. На чале паўстаўшых стаялі: кап. Маюс, б. пасол соцыяль-дэмократаў Нікольскі, вучыцель гімназіі Шалатонас і студэнт Бакіс. Адначасна рыхтаваўся замах у м. Оліце. Часьць паўстаўшых перайшла нямецкую граніцу. Другая часьць стараецца ўцячы да Польшчы. Ёсьць забітыя і раненыя. Між забітымі знаходзіцца палкоўнік Гэсс, які быў у одпуску.

9.IX.27 г. перайшлі польскую граніцу і прыбылі ў Вільню два паслы літоўскага Сойму, соцыяль-дэмократы Язэп Паплаўскас і Язэп Кедыс. У цэлай Літве адбываюцца масавыя рэвізіі і арышты. Замах рыхтавалі соцыяль дэмократы, якія дарогай збройнага паўстаньня хацелі скінуць фашыстаўскі ўрад Вальдэмараса.

## Асуд гэнэрала Жымерскага.

Вайсковы Акружны Суд у Варшаве засудзіў гэн. Жымерскага, які вінаваціўся ў службовых надужыцьцях на 5 гадоў катаржнага вастрогу з пазбаўленьнем вайсковых правоў і з выдаленьнем з войска. Гэн. Жымерскі зрабіў шкоды польскай дзяржаве на 150.000 даляраў.

ці гэта тая самая Антося?! Агні пабеглі па целе пана Харашэўскага, ён пахіліўся і пачаў цалаваць і гэныя вочы-незабудкі і гэныя гарачыя губы—цалаваў і туліў яе ў сваіх абьняцьцях. Калі разам дзьверы скрыпнулі і праз іх насамперш высунулася галава Гадаўскага, а за хвіліну і ўся яго тонкая фігура. — Выбачайце, здаецца, я перашкаджаю? — азваўся Гадаўскі. Голас гэны, як гром, прагрымеў у вушах пана Харашэўскага. Антося крыкнула не сваім голасам, вырвалася з яго рук і, зьбегшы з ганку, кінулася ў кусты.

Пан Харашэўскі прачхнуўся і расплюшчыў вочы. Над ім стаяў Гадаўскі з віхрам на галаве, з паважным, як заўсёды, тварам і будзіў яго.

— Выбачайце, я, здаецца, вам перашкаджаю, але калі маем ехаць, дык ужо час, хутка і Каштанка будзе гатова. Праз добрую хвіліну пан Харашэўскі глядзеў на Гадаўскага, быццам на зьяву якую, ня ведаючы добра, ці гэта праця́г сну, ці рэчаіснасьць, ажно разбудзіўся зусім і прысеў на ложку. — Я, я... зараз, пане Гадаўскі, вось бачыце заснуў трошкі, чакаючы вас. І, кажучы гэта, пан Харашэўскі зноў кінуўся да люстэрка, паправіў шчоткай валасы, пагладзіў вусікі і, кінуўшы апошні раз грозны пагляд у люстэрка, якое зноў пачало штукарыць і на ўсе бакі расьцягваць і плюшчыць твар яго, ён апрануў кажух і пачаў завязваць шалік.

— Што-ж гэта вы атуляецеся, як баба, — азваўся Гадаўскі, — шак на двары не такі ўжо вялікі мароз?—Пану Харашэўскаму зрабілася сорамна. Ён любіў цяплыню і няраз гэта было прычынай жартаў з боку яго таварышоў, а асабліва Гадаўскага, якія за гэта клікалі яго бабай.

— Якая там баба,—адбуркнуў Харашэўскі,— проста горла баліць, дык баюся прастудзіцца.

— Горла баліць? — паважна запытаў Гадаўскі.

— Але, баліць.

— А як глытаеце, баліць?

Харашэўскі глытануў сьліну і, паслухаўшы хвіліну, махнуў галавою:—Але баліць!

— А як ня глытаеце, не баліць?—дапытваўся Гадаўскі.

Харашэўскі хвіліну зноў прыслухоўваўся ажно азваўся: — Не, не баліць!

— Гэта дрэнна. Пакажэце ваша горла.

Гадаўскі падвёў пана Харашэўскага да століка, запаліў лямпу, пасадзіў яго на крэсла і, ўзяўшы лямпу ў рукі, камандаваў далей:

— Ну, разяўце рот — трэба паглядзець.

У голасе Гадаўскага было гэтулькі неспакою і страху і разам з тым зьчэлі ў ім ноты гэткай пэўнасьці, што Харашэўскі ня сьмеў яму пярэчыць і пакорна, з нейкай трывогай, як дзіцянё малое, выпаўняў усе прыказы Гадаўскага. Той падсунуў лямпу блізка-блізка пад самыя вочы пана Харашэўскага, глянуў у горла і прашаптаў з нейкай безнадзейнай трывогай у голасе: „А, Божа-ж мой, Божа!“ Пан Харашэўскі зьбялеў, як

### Звальненьне жаўнераў 1904 г.

Жаўнеры, нарадзіўшыяся ў 1904 годзе, якія служылі ў пяхоце, будуць звольнены з войска 22 кастрычніка г. г.

### У справе забойства Трайковіча.

Паводле вестак, у справе забойства ў гмаху радавага пасольства ў Варшаве вядзецца і яшчэ аканчальна ня скончана сьледзтва. Наагул справа аказалася вельмі цяжкай для вырашэньня.

### Горадзен напярэдадні выбараў.

Міністэрства Унутраных Справаў распусьціла горадзенскую гарадзкую раду.

Гэткім чынам, беларускае жыхарства Горадна стаіць напярэдадні выбарнай акцыі ў новую раду.

## У Лізе Народаў.

### Аканчальны тэкст польскага проекту.

Зьмест польскага проекту формулюецца двома галоўнымі прынцыпамі. Па-першае, ўсялякая зачэпная вайна забараняецца; па-другое, пры паўставаньні якіх-колечы конфліктаў, трэба датарноўваць мірныя способы, якія толькі магчымы.

Гэткая пастаноўка справы спаткалася з вострай опозыцыяй. Пасьля крытыкі ангельцамі польскага проекту, польская дэлегацыя затрэбавала дырэктываў з Варшавы. Пасьля гэтага польская дэлегацыя апрацавала новы тэкст дэкларацыі, які запрапанавала Чэмбэрлену і Штрэзэману. Калі дэкларацыя будзе адкінена, дык міністар Сокаль зусім адмовіцца ад уласнага проекту.

## Корэспондэнцыі.

### З Палескага жыцьця.

Пэсымізм агартае душу чалавека, які прыглядаецца да сучаснага стану беларускага руху на нашым занядбаным Палесьсі. Калі параўнаць адносіны, панаваўшыя тамака да вайны з тым, што робіцца сягоньня, дык прыдзецца констатаваць вельмі сумны факт. Можна падумаць, што ў працягу гэтых доўгіх гадоў нічога ня здарылася на сьвеце, бо амаль што зусім не зьмянілася псыхіка паляшука ў сэнсе здабыцьця беларускай нацыянальнай сьвядомасьці. За выняткам Косаўшчыны і часткі Пружаншчыны, дзякуючы адсутнасьці культурных працаўнікоў, беларускі рух вельмі мала прышчапіўся на палескім грунце. Рэшта палескіх паветаў стаіць на мёртвым пункце і не выяўляе ніякае актыўнасьці.

Патрэбна якаясь вонкавая дапамога з боку віленскіх беларускіх установаў, але нажаль яе няма і з агляду на грызьню, панучую пасярод віленскіх дзеячоў, спадзявацца помачы стуль, у хуткім часе, нельга.

А тымчасам сітуацыю выкарыстоўваюць розныя спрытныя палітычныя камбінатары, ствараюць усялякія арганізацыі і на скуры цёмнага паляшука робяць сваю, не заўсёды чыстую, палітыку...

Не разглядаючы палітычных групіровак, абраўшых сабе месцам дзеяльнасьці Палескае ваяводзтва, неабходна сказаць некалькі слоў аб тым, як адносяцца да беларусаў прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў, а іменна: расейцы, палякі і украінцы.

Трэба адцеміць што расейцы ніколі не ад-

---

хуста. Ён пачуў у гэтым шэпце Гадаўскага нешта страшнае. Ад яго словаў веяла холадам сьмерці. І разам маланкай праняслíся ў галаве пана Харашэўскага словы варажыхі, і ён задрыжаў увесь і хацеў спытацца ў Гадаўскага, але не пасьпеў, бо Гадаўскі голасам, якому нельга было пярэчыць прыказваў далей:

— Шырэй, шырэй разяўцеся!—Харашэўскі разявіўся, як мага, ажно захрусьцелі зьвязкі суставаў, а Гадаускі глядзеў у горла, ківаў галавою і безнадзейна шаптаў:

— А Божа-ж мой, Божа!

Урэшце Харашэўскі ня вытрымаў далей гэнае мукі, заплюшчыў вочы і азваўся перапуджаным голасам:—Пане Гадаўскі, зьлітуйцеся, скажэце, што там такое?

— Што такое? Голка!

— Голка? Дзе?

— У горле стырчыць!

— Ня можа быць! Як яна там папала?

— А вы сёньня нічога ня шылі?

— Шыў, гузік да марынаркі прышываў.

— І голку ў зубох трымалі?

— Трымаў, трымаў! А Божачка-ж мой, Божа, Пане Гадаўскі, што-ж цяпер будзе? ратуйце,—прасіў Харашэўскі.

— Як тут ратаваць? трэба ехаць да доктара і то зараз, траціць часу ня можна. Мусіць і Каштанка ўжо гатова, дык да Адампалю паедзем разам, адтуль да Наваградку ўжо самі даб'едзеся.

Пан Харашэўскі стаяў атрупелы, узіраўся вокал тупым паглядам і маўчаў. Маўчаў таксама і Гадаўскі, паглядаючы з-пад ілба на забітага горам дзяцюка. Разам азваўся з падворку голас бубнянцоў.

— Ну, пане Харашэўскі, — едзем, няма чаго думаць, — азваўся Гадаўскі, і паволі ён выпіхнуў за дзьверы пана Харашэўскага, пасадзіў у санкі і яны паехалі.

— Валі, Хомка, ў Наваградак, да доктара, мяне каля Адамполю выкінеш.

Хомцы ня трэба было паўтараць два разы: ён цмокнуў, махнуў бізуном і застаяўшаяся Каштанка рухнула з месца і панясла іх у залітыя месяцам белыя прасторы. Харашэўскі маўчаў, прыбіты сваім горам. Ён глытаў ад часу да часу сьліну, наслухоўваў і здавалася яму, што пры кожным глытаньні нешта колець у горле; пераставаў глытаць — болю тады ня было чутно, але ён ясна адчуваў, што там сядзіць голка. Гадаўскі ад часу да часу кідаў у яго бок косы пагляд і пытаў:—Ну, што, баліць? І калі Харашэўскі панура ківаў галавою — спагадліва пацяшаў яго: — Ну дасьць Бог усё добра будзе,—а сам у душы сьмяяўся над лёгкаверным дзяцюком, якому гэтак лёгка ўдалося яму ўмовіць гэную голку ў горле. Трэба было бліжэй знаць Гадаўскага, каб зразумець, што пхнула яго на гэны нядобры жарт.

(*Працяг будзе*).

**Шастун.**

мовяцца ад страчанай гэгэмоніі, у іх старых прадваенных галовах моцна засела думка аб Маскве.

Ня гледзячы на тое, што рэальнае жыцьцё разьбіла ня толькі лятуценьні аб Канстынтынопалі і Дарданэлах, але зрабіла з расейцаў палітычных „ізгояў“, яны не забываюць традыцыі старое раманаўскай Расеі.

Ёсьць ведама, што расейцы разглядаюць сьвядомых беларусаў прыблізна так, як доктар разглядаець небясьпечна хворага пацыента.

Гэта адносіцца да найбольш лібэральных расейцаў, а наагул яны, чытаючы толькі сваю прэсу, гал. чынам „За Свободу“ і „Русскій Голосъ“, маюць вельмі дрэннае паняцьце аб беларускім руху і ўваабражаюць яго, як прадукт работы нямецкага альбо польскага генэральнага штабу, альбо штось у гэтым-жа сэнсе. Адносіны расейцаў да беларусаў наагул варожыя і часамі гэтая варожасьць даходзіць да фанатызму.

Што датычыць палякоў, дык ясна, што падыходзяць яны да беларускага пытаньня так, як можа падыходзіць да гэтага пытаньня пануючая нацыя. Сэнтымэнтальнага ў гэтых адносінах няшмат, бываець нават і горай.

Палякі, мо' ня зусім сьвядома, спрыяюць русіфікацыі. Гэта рабілі пэпэасы выдаючы ў Лунінцы парасейску свой орган „Красное Знамя“. Гэта робяць былая энпэхоўцы на чале з паслом Бонам.

Найцікаўнейшымі ёсьць бязумоўна украінска-беларускія адносіны.

Усюды, на старонках газэт, на ўсялякіх конфэрэнцыях пануе поўная гармонія, ніякіх дысонансаў—згода і братняе сужыцьцё.

Беларусы гэтага прынцыпу датрымліваюць у поўнай меры. Але украінцы лішняй толерантнасьцю не ад'значаюцца.

Перафразуючы нямецкі дэвіз, яны тасуюць дзе толькі можна прынцып „Drang nach Norden“. Адчыняючы украінскія бібліятэкі-чытальні таварыства „Просвіта“ на беларускай тэрыторыі, яны вядуць сваю экспансію, коштам беларусаў, на поўнач. Беларусы зьвяртаюць на гэта вельмі малую ўвагу, што ў будучыні можа даць непажаданыя вынікі.

Наогул украінскія культурныя дзеячы настроены вельмі агрэсыўна, што да ўсяго Палесься і нават зьбіраюцца адчыняць свае установы ў Пружаншчыне і мрояць дайсьці да самых Баранавіч.

*Паляшук.*

# З жыцьця Наваградчыны.

### Адбудова зьнішчаных бурай гаспадарак.

Ваяводзкі Урад разаслаў загад старастам у Наваградку, Слоніме і Стоўпцах у справе з'арганізаваньня акцыі адбудовы зьнішчаных і ушкоджаных падчас буры будынкаў. Прызнаваньне пазык і дапамогаў на адбудовы пераказана істнуючым пры паветах Пазычковым Камісіям Адбудовы. Толькі на карысьць павятовых касаў ашчадн асьці будзе брацца з сумы пазычанай 1%. Болей ніякіх процантаў плаціць ня трэба. Будуць выдавацца доўгасрочныя пазыкі, пры тым, калі яны будуць належна выкарыстанымі на адбудову і пры трудных гаспадарчых абставінах даўжніка, пазыкі могуць быцьануляваны.

Павятовыя аддзелы маюць у меру магчымасьці з'арганізаваць масовы закуп або выраб будульцу, а асабліва агнястойкія. Будулец гэты будзе выдавацца атрымоўваючым пазыкі, замест грошай. Апрача гэтага, гэты будулец можна будзе прадаваць па цэнах ня ніжэйшых за рыначныя на паваенную адбудову. У зьвязку з гэтым некаторыя павятовыя аддзелы прыступаюць да павялічэньня прадукцыі бэтонных вырабаў.

Дагэтуль павятовыя аддзелы выдалі на адбудову зьнішчаных бурай гаспадарак 2.800 куб. мэтр. і прадбачыцца далейшае выдаваньне.

Цэлая акцыя ў паветах адбываецца пад кіраўніцтвам старастаў, якія выконваюць яе праз дзяржаўныя і самаўрадовыя органы.

На абшары Ваяводзкага Ураду справай адбудовы зьнішчаных бурай гаспадарак кіруе Самаўрадовы Аддзел.

### Дапамогі для школьных інтэрнатаў.

Ваяводзкі Урад, у зьвязку з пачаткам школьнага году, вызначыў значныя дапамогі для школьных інтэрнатаў ў Наваградку. Будзе адчынены новы інтэрнат для вучаніц дзяржаўнай гімназіі. Інтэрнат для вучняў Беларускае Гімназіі будзе перанесены з Брэцянкі да места і расшыраны.

### Дапамогі на мэты соцыяльнае апекі.

Ваяводзкі Урад выплаціў з сумы Міністэрства Працы і Соцыяльнае Апекі гэтакія сумы дапамогаў на месяц жнівень:

На дабрадзейныя і соймікавыя прытулкі

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Наваградзкага пав. | 4.633 | зл. | 59 | гр. |
| Баранавіцкага пав. | 2.736 | зл. | 40 | гр. |
| Лідзкага пав. | 1.712 | зл. | 34 | гр. |
| Слонімскага пав. | 1.026 | зл. | 45 | гр. |
| Нясьвіскага пав. | 794 | зл. | 46 | гр. |
| Стаўпецкага пав. | 572 | зл. | — | гр. |
| Валожынскага пав | 198 | зл. | 30 | гр. |
| На школьныя інтэрнаты | 3.000 | зл. | — | гр. |
| На іншыя апекунчыя установы | 4.931 | зл. | 85 | гр. |

### Цяжкае наша жыцьцё. *).

*Вёска Цяцеркі, Браслаўскага павету.*

Наша вёска вельмі бедная, навокал яе вузенькіх сялянскіх палосак, разьлягаюцца шырокія палеткі — абшары двароў і хвальваркаў. У якую хату ні заглянеш у нашай вёсцы, ўсюды пабачыш убогасьць і нэндзу. Б'ецца наш селянін, як рыба аб лёд, змагаючыся з голадам і холадам. Сяляне нашае вёскі вельмі працавітыя, але адна бяда, што няма дзе працы дастаць, бо свае зямлі зусім мала, а сем'і вялікія. Лясных работ няма, бо лясы паншчаны, а калі ёсьць дзе які гаёк, то паны даглядаюць лепш чым, фруктовы сад. У двары на работу ніхто не бярэ, бо там працуюць палавішнікі, а калі які гаспадар і патрабуе працаўнікоў, то ён столькі плаціць, што немагчыма працаваць за такую цану. Нашы сяляне і так і сяк мяркуюць, каб як-колечы змагацца з беднатой — нічога не памагае, бо розныя знаходзяцца перашкоды да палепшаньня быту. Пры гэтым, якраз ня лішне будзе зазначыць, што наша вёска ў адносінах да беларускасьці найбольш сьведамая і найбольш актыўная ў грамадзкай і культурнай рабоце на цэлы Браслаўскі павет, аб чым відаць з газэт беларус-

кіх. Дык вось за гэта яна найбольш і церпіць. За кожнае глупства чэпіцца паліцыя. Мост крыху падгніўшы—плаці штраф, сабаку зловяць — плаці штраф, комін не пабелены добра—штраф, камень часамі трапіць на дарогу—штраф, табліцу дождж крышку змыў — штраф, дый за кожнае глупства плаці ды плаці, а адкуль браць грошы! Не заплаціш — ідзі сядзець! У нашай вёсцы ёсьць Гурток Інстытуту, які вельмі інтэнсіўна працуе, толькі паліцыя страшэнна перашкаджае ў працы. Вясной нашы сяляне займалі зямлі ў двары Зайнаве, а лемта сенажаці, то Зайнаўскі камісар, п. Буйвід, толькі тым даваў зямлю і сенажаці, хто не належыць да Гуртка Інстытуту. Першае яго пытаньне „czy należysz do hurtka“, калі-ж адказаў, што „так“, дык таму няма нічога; і гальля нават за вялікія грошы не дастанеш. Дык вось і жыві, як хочаш, і разьвівайся культурна ў роднае мове. А, што тут благое ў беларускасьці — мы самі ня ведаем.

*Антось Талалай.*

*) **Ад рэдакцыі.** Калі ўзапраўды паліцыя перашкаджае ў працы легальным беларускім установам, — то трэба падаць скаргу павятоваму старасьце, падаўшы факты, імя і прозьвішча тых урадвікаў, якія надужываюць свае ўлады.

## Наша жыцьцё.

(*м. Радашкавічы*).

Мястэчка Радашкавічы калісь было значным гандлёвым пунктам. Ваколіца была вялікая, на ўсход цягнуўся цэлы абшар з вёскамі, на працягу якога не спатыкалася ніякага места аж да самага Менску. Таму таргі, якія адбываліся двойчы ў тыдзень, былі вялікія. Усе тавары прывозілі крамнікі з Менску, які ў тры разы бліжэй, чымся Вільня. Да станцыі вяла шаса, таму перавозка тавару абходзілася таньней. Каляніяльныя тавары зручней было прывозіць з Менску, да якога ад нас толькі 6 міль, куды часта езьдзілі фурманкамі.

Тады наша мястэчка красавала, ўсякі зарабляў, гандаль ішоў жывы, ніхто ня жаліўся на сваё жыцьцё. Цяпер усё зьмянілася. Граніца, якая праходзіць зараз за мястэчкам, адрэзала ўсю ваколіцу, з другога боку ёсьць шмат іншых мястэчак. Таму таргі зьбіраюцца цяпер зусім малыя, ды ўсяго толькі раз на тыдзень. Да Вільні праезд ці прывоз стуль тавараў абходзіцца надзвычайна дорага. Так што сёлета зімой крамнікі прабавалі вазіць тавары фурманкамі аж з Вільні за 162 вярсты, а гэта ўжо не работа, калі каню прыходзіцца канкураваць з машынай. Гандаль упаў. Палавіна мястэчка быццам вымерла; крамы пазачыняліся. Ніхто туды ня езьдзіць, а ні адтуль з боку граніцы, а калі і пойдзе, дык зараз пратакол і трэ' плаціць штраф. Жыдоўскае насельніцтва амаль усё жывець з амэрыканскіх запамогаў. Заробкаў ніякіх няма. Народ у нас зусім зьбеднеў. Прыходзіцца жыць, аплачваць падаткі, вучыць дзяцей і г. д. і ўсё з свайго марнага шнурка. Не зьвяртаючы ўвагі на цяжкое матар'яльнае палажэньне насельніцтва, наш магістрат накладае на жыхарства падатак за падаткам, якіх жыхарства проста ня ў стане плаціць. Гэтак, брукавалі вуліцы, тады кожнаму гаспадару прышлося даставіць па некалькі вазоў каменьняў. Цяпер ідзець будова дому для магістрату і будынку для пажарнае варты. Дзеля гэтага на пакрыцьце расходаў наложана ў сярэднім ліку па 8 злотых на кожнага гаспадара. Апрача таго налажылі па 3 зл. за пашу ад штукі бydла. Трэба адзначыць, што гэтага падатку мы ніколі не плацілі, бо пасём на ўласным, агульна-местачковым выгане. Тэрмін заплаты гэтых падаткаў ужо мінуў, але амаль ніхто яшчэ не заплаціў, бо проста няма рады. Відаць наш магістрат не разумее, што трудна жывецца, што няма адкуль плаціць. Розныя палепшаньні рэч добрая і патрэбная, але ня можна накладаць падаткаў, якія зьяўляюцца непасільным цяжарам.

*Радашкавічанін.*

## Вынікі выбараў у меставую раду ў Радашкавічах.

У нядзелю, 4-га верасьня адбыліся ў нас выбары. Было пададзена 5 сьпіскаў: 2 жыдоўскія, 1 беларускі, 1 польскі і 1 зьмешаны.

Выбралі 5 беларусаў, 6 жыдоў і з польскага спіску аднаго толькі ксяндза.

*Лаўнік.*

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

## Аб выстаўцы беларуска-украінскага друку.

Наша рэдакцыя гэтымі днямі адтрымала ад выставачнага камітэту камунікат, у якім арганізатары выстаўкі паведамляюць, што, ніякіх іншых задачаў сабе выставачны камітэт ня ставіў. Як мы даведаліся, адчыненьне выстаўкі адбудзецца не 17 верасьня, а трохі пазьней і ня ў будынку Унівэрсытэтту—а ў іншым месцы. На выстаўцы будзець каля 400 экспанатаў беларускае прэсы, частка якое адносіцца да 1863 г. „Мужыцкая Праўда“—„Беларускі Званар“ 1868—1869 г. (выдаваўся ў Парыжы). Па гэтым відаць, што выстаўка арганізована вельмі старанна.

## „Родныя Гоні“ ўжо друкуюцца.

Пасьля летняга перарыву пачала ўжо друкавацца чарговая кніжка „Родных Гоняў“.

Гэтая кніжка ў хуткім часе знойдзецца на паліцах беларускіх кнігарняў.

## Заняткі ў Беларускай гімназіі.

5 верасьня пачаліся заняткі ў Віленскай Беларускай Гімназіі „Таварыства Беларускай Школы“.

### Пасол Рагуля вярнуўся з Жэнэвы.

Як ведама пасол Рагуля езьдзіў ад Беларускага Нац. Камітэту № 2. ў Жэнэву на зьезд нацыянальных мэншасьцяў. Гэтымі днямі пасол вярнуўся з Жэнэвы.

### Беларускія студэнты з Латвіі.

Нас паведамляюць, што некалькі скончыўшых Дзьвінскую гімназію матурыстых зьбіраюцца прыехаць у Польшчу, каб вучыцца ў Віленскім Унівэрсытэце.

# АДМІНІСТРАЦЫЯ „БЕЛАРУСК. ДНЯ“

паведамляе сваіх чытачоў, якія дагэтуль не маглі аплаціць падпісной платы, абяцаючы прыслаць яе пасьля збору жыта, што павінны падпісныя грошы прыслаць у найбліжэйшым часе, бо тым, што да 1 кастрычніка грошы ня прышле, часопісь *„Беларускі Дзень“* высылацца ня будзе.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Аб паляпшэньні сялянскае долі.

Кажучы аб шляхох, якія вядуць да паднящьця культуры нашае сельскае гаспадаркі, мы павінны сказаць, што першым крокам на гэным шляху зьяўляецца пераход шнуравых гаспадарак нашых вёсак на хутары, альбо, як цяпераka кажуць, камасацыя вёсак.

Мы ведаем, што пераход на хутары мае шмат праціўнікаў асабліва з боку малазямельных гаспадароў, хаця і паміж багацейшымі гаспадарамі спатыкаюцца праціўнікі яго.

Мы ведаем таксама і прычыны, якія часта стрымліваюць наша сялянства ад пераходу на хутары. Мы добра разумеем, што камасацыя вёскі зьяўляецца для малой сельскай гаспадаркі опэрацыяй, іншы раз даволі цяжкай, якую гаспадарка мусіць пасьля нейкі час перехварэць.

Малазямельныя гаспадаркі хваробу гэну пераносяць цяжэй, але мы ня ведаем ніводнага здарэньня, калі-б гэная опэрацыя скончылася сьмерцю сельскай гаспадаркі, мы ня ведаем ніводнага здарэньня, калі-б пераход на хутары зруйнаваў гаспадарку. Наадварот, пасьля пераходу на хутар праз нейкі час гаспадарка значна падымаецца, гаспадар багацее і толькі дзівіцца і шкадуе, што гэтак позна паддаўся гэнай опэрацыі.

Вось дзеля гэтага мы лічым патрэбным сказаць, што гэнай опэрацыі вёскі нашы для свайго-ж дабра паддацца мусяць, бо тыя выгады, якія кожная, нават самая маленькая, гаспадарка атрымае ўжо праз 5-6 гадоў, з процантамі вернуць гаспадару і грошы і працу, зьвязаныя з пераходам гаспадаркі на хутар.

Што хутарная гаспадарка ў параўнаньні з вясковай шнуравой гаспадаркай мае шмат выгадаў, не падлягае ніякаму сумліву. Перш за ўсё, гаспадар мае вялікую эканомію ў працы, бо ўся зямля ў адным-двух кавалачках ляжыць тут-жа пад бокам, ня трэба езьдзіць за пяць-шэсьць, а іншы раз і болей вёрст да сваіх параскіданых далёка адзін ад аднаго шнуркоў. Другая выгада гэта тое, што, сабраўшы ўсю сваю зямлю, якая была ў вёсцы іншы раз у 30 і болей шнурках, у адзін-два кавалачкі, гаспадар мае запраўды больш зямлі, бо пры шнурох шмат зямлі прападае пад межамі і тым больш пад межамі яе прападае, чым на болей шнуркоў падзелена зямелька. Я ведаю невялічкую гаспадарку ў 7 дзесяцін, якая знаходзілася ў 32 шнурках. Падлічыўшы колькі зямлі было пад межамі, выйшла, што пад межамі прападала гаспадару больш як $^1/_2$ дзесяціны. Сабраўшы зямлю ў адзін кавалак пасьля камасацыі, пад межы пайшло толькі 60 кв. сажняў. Так што гаспадар, дзякуючы камасацыі, здабыў каля $^1/_2$ дзесяціны зямлі. А гэта ўжо ня жарты пры малой гаспадарцы.

Але пераход на хутары для паднящьця культуры сельскай гаспадаркі мае куды большае значэньне з іншага боку.

Справа ў тым, што шнуравая гаспадарка, ў якой вядзеньне гаспадаркі адным гаспадаром залежыць цалком ад таго, як гэную гаспадарку вядуць яго суседзі, проста па руках і нагах зьвязвае больш дасужых і энэргічных сялян, у якіх хапае ўменьня і адвагі расстацца з прадзедаўскай трохпалёўкай і перайсьці да больш культурных формаў гаспадаркі шматпольнай. Пры шнуровай гаспадарцы высілкі гэных людзей застаюцца дарэмнымі; ні веда іх, ні энэргія тут нічога не паможа. Ён мусіць весьці гаспадарку так, як вядуць яго суседзі.

І вось гэная немагчымасьць паасобным, больш энэргічным і разумным адзінкам сялянскай масы, весьці сваю гаспадарку згодна з поступам навукі, гэта немагчымасьць выяўленьня свае творчае энэргіі і ініцыятывы, зьяўляецца найбольшым злом шнуравой гаспадаркі нашых вёсак.

Ад гэтага церпіць ня толькі тая частка сялянства, якая хоча, ўмее і запраўды магла-б нарыхтаваць сваю гаспадарку на новы лад, але церпіць ад гэтага ўсё сялянства. Бо, як уводзяцца ў сялянскую гаспадарку розныя паляпшэньні?

Словам наша сялянства ня верыць. Яно мусіць праканацца, мусіць пабачыць сваімі вачамі, што запраўды тая ці іншая парада зьяўляецца запраўды карыснай для яго гаспадаркі. Праканацца можа толькі тады, калі які-небудзь сусед-рызыкант увядзе палепшаньне ў сябе. Тады ўся вёска доўга прыглядаецца, прыглядаецца некалькі гадоў і тады толькі, пераканаўшыся, што рызыканту пашэнціла, адзін за адным паволі пачнуць рабіць тое самае.

Калі розныя дробныя палепшаньні ў гаспадарцы кожны паасобны гаспадар можа рабіць і пры сыстэме шнуравой гаспадаркі, не ўглядаючыся на сваіх суседзяў, як напрыклад ужываць плуг замест сошкі, угнойваць зямлю лубінам, ужываць штучныя гнаі, то ўжо перайсьці на шматпольную гаспадарку, калі наваколл зямля ў шнурочках — ніводзін гаспадар ня можа і дзеля гэтага вёска, ня маючы магчымасьці пераканацца аб патрэбе і карысьці шматпольнай сыстэмы, дагэтуль прападае ў нэндзы на сваіх шнурох.

Адным словам, шнуравая гаспадарка нашых вёсак зьяўляецца нейкім балотам, якое зацягнуўшы наша сялянства, не дае магчымасьці нават найбольш энэргічным і разумным прадстаўнікам яго выбрацца на сьвет Божы і выцягнуць за сабою ўсю сялянскую масу.

І дзеля гэтага сьвятым абавязак усяго сялянства — ня пужацца розных сапраўдных, а часам і выдуманых*) перашкодаў, а кідаць свае шнуры і пераходзіць на хутары.

Пераход на хутары, гэта адзіныя вароты для пераходу да інтэнсыўнай шматпольнай гаспадаркі, якая магчыма толькі ў тых варунках, калі земляроб зьяўляецца запраўдным гаспадаром на сваёй зямлі і мае магчымасьць весьці сваю гаспадарку незалежна ад сваіх суседзяў.

Што гэта так — красамоўным доказам зьяўляецца працэс разьвіцця сельска-гаспадарскай культуры ў іншых народаў, паміж іншымі ў нашых заходніх суседзяў немцаў, якія ў галіне паднящьця сельска-гаспадарскай культуры могуць пахваліцца вельмі значнымі дасягненьнямі. Працэс гэны ішоў там у тым кірунку, што прападалі

*) Нам ведамы здарэньні, калі праціўнікі пераходу на хутары тлумачылі, што ў вёсцы жыць весела, а на хутарох, далёка адзін ад аднаго — нудна будзе і дзеля гэтага ня варта пераходзіць на хутары.

паволі шнуры, зьнікалі вёскі і цяпер Нямеччына ведае толькі адзін тып дробнай сельскай гаспадаркі — гэта гаспадарка хутарная.

У тым самым кірунку працэс гэны ідзе ў Літве, ў Францыі, адным словам, усюды. Дый здаровы розум кажа, што іначай і быць ня можа. Вось дзеля гэтага праціўнікам пераходу на хутары можам сказаць, што паміма іх згоды разьвіцьцё сельска-гаспадарскай культуры змусіць іх, пакінуць свае шнурочкі, бо працэс гэны сільнейшы як воля паасобных адзінак, бо працэс гэны ёсьць праявай імкненьня людзей да лепшае долі, да лепшых формаў жыцьцця і ніякая сіла яго спыніць ня зможа.

У тым самым кірунку, праўда вельмі памалу, працэс гэты ідзе і ў нас і раней ці пазьней, а прыдзе той час, калі і ў нас зьнікнуць шнурочкі бясьсьледна.

Ведама пераход на хутары зьяўляецца толькі першым этапам на шляху да культурнай гаспадаркі, але цалком яшчэ не вырашае гэнага пытаньня.

Каб і на хутары завясьці трохпалёўку, то, ведама, шмат болей багацьця з зямлі не дабудзеш. Каб перайшоўшы на хутар мець магчымасьць дабыць з зямлі ўсё тое багацьце, якое дабыць з яе можна, трэба ведаць, як гэта робіцца, а гэтакае штукі, як і кожанай іншай трэба вучыцца.

Якім чынам здабыць навуку аб лепшых формах сельскай гаспадаркі, мы і пагаворым у чародным нумары „Бел. Дня". *У.*

# Культура жыта.

## Зямля пад жыта.

Жыта, гэта збожжа найбольш здатнае да лёгкае глебы. Там, дзе ёсьць моцная гліна, найлепш заступіць жыта пшаніцай (прынамсі часткова).

Жыта лепш за іншыя каласяныя збожжы родзіць на лёгкіх пяскох. У тых мясцох, дзе родзіць толькі жоўты лубін, можна разводзіць і жыта.

Ізноў-жа жыта ня любіць падмочанае, балотнае глебы. На гэткай глебе і добрае ўгнаеньне ня шмат памагае, а штучныя гнаі даюць толькі страту. Глебу гэтую трэба перш за ўсё асушыць. Жыта ня трэба залівацъ вадою і ўжо нарыхтоўваючы ральлю для сяўбы трэба аб гэтым памятаць, і араць гэтак, каб быў лёгкі адплыў вады (пасьля дажджу альбо сьнегу).

Дзе вада хоць часткова затрымліваецца на полі і ня маець лёгкага адплыву, тамака жыта прападаець.

Пасьля сяўбы трэба забясьпечыць жытняе поле разорамі, каб верхняя вада найхутчэй магла зыйсьці. Адначасна, можна сказаць, што жыта найлепш падлягаець сушы, бо расьцець тады, калі вады ў зямлі маем шмат. Жыта найлягчэй карыстаецца зімоваю вільготнаю зямлёю, бо ў сакавіку ўжо расьцець, тады як іншага збожжа няма яшчэ ў полі.

Жыта вымагае адлажалае ральлі, найлепшым месцам зьяўляюцца папары.

Найадпаведным месцам для жыта ёсьць бязумоўна пасьля прыараных лубінаў і сэрадэлі пры тасаваньні дадатковых фосфарных гнаёў, а часткова паташовых.

Добрае палажаньне для жыта пасьля аднагадовай канюшыны.

Добра расьце жыта пасьля гароху і вікі, па сколькі яны рана сходзяць з поля.

Таксама трэба памятаць аб дадатковым угнаеньні штучнымі гнаямі.

З каласяных расьлінаў жыта ўдаецца па сабе. Горш пасьля пшаніцы і аўса. Пасьля бульбы жыта не ўдаецца.

Гэта дзеля таго, што бульба позна сходзіць з поля і ральля застаецца вельмі пухкая.

## Даць ральлі адляжацца.

Жыта вымагае, каб ральля была адляжалая, яно ня любіць сьвежа згаранай зямлі. Час, патрэбны на адляжаньне ральлі пад жыта, залежыць ад гатунку глебы і ад стану пагоды. Цяжкая глеба патрабуе больш часу, чымся глеба лёгкая. Дажджы ўбіваюць ральлю і прычыняюцца да хутчэйшага яе адляжаньня.

Раяць, каб на сярэдніх землях ад апошняга араньня да сяўбы пакінуць 4 тыдні часу; на землях лягчэйшых каля 2-х тыдняў.

Па лубінох сеюць значна хутчэй, аднак у жываецца вал Камбэльля дзеля ўбіваньня згаранага поля.

## Пасеўнае збожжа.

Збожжа мусіць быць добра ачышчана. Апрача гэтага трэба выбіраць цяжкае зярня. Дзеля гэтага трэба прапусьціць яго праз млінок. Найлепшы млінок „Трыумф". Трэба так малоць, каб $^1/_3$ збожжа йшла на пасеў. Збожжа гэтае будзе найлепшае гатункавае вагі. Падзел збожжа на $^1/_3$ для сяўбы і $^2/_3$ на корм паходзіць стуль, што заўсёды $^1/_3$ частка вымалачаных зярнят паходзіць з сярэдзіны коласа і ёсьць значна цяжэйшая.

## Гушчыня пасеву.

Падчас сяўбы трэба браць пад увагу страты ад усялякіх шкоднікаў і іншых непрадбачаных выпадкаў. Трэба памятаць і аб тым, што густы пасеў дае горшыя рэзультаты ў зярнятах.

Найлепш сяўба адбываецца пры помачы радковых сеялак.

Ад'значаем, што ранейшы пасеў мусіць быць радзейшым, а пазьнейшы гусьцейшым; пры ранейшым пасеве жыта мае даволі часу, каб разрасьціся яшчэ да зімы, тады як засеянае позна да зімы не разрасьцецца і дасьць менш каласоў.

## Калі сеяць жыта.

Шматгадовая практыка паказала, што ў нашых кліматычных варунках выгрывае той, хто найраней сее жыта.

Народная прыказка кажа: „Прыйшоў Баўтрамей, жыта на зіму сей". Сьв. Баўтрамея выпадае на 24 жніўня. У спраўных гаспадароў сапраўды сяўба спачынаецца прыблізна ад гэнай даты, а трываець найдалей да 10 верасьня. Вучоныя таксама кажуць, што спазьненьне сяўбы дае горшыя ўраджаі.

## Увагі для сейбіта.

Жыта, ня гледзячы на тое, што заўсёды наракаем, што не дае высокіх ураджаяў ёсьць і доўга яшчэ будзе галоўным нашым збожжам. Жыта гэта хлеб, а хлеб вельмі часта бывае аснаўным спажывецкім прадуктам у нашым краі. Ураджай жыта становіць аб агульным ураджаі, дзеля таго, што жыта сеецца ў значнай колькасьці. *Т. В.*

## Як выкарміць сьвіньні.

Мэтай адкормкі сьвіней зьяўляецца павялічаньне колькасьці і ўлепшаньне гатунку мяса і сала. Адкормка палягае на тым, каб даваць сьвіньням ня толькі многа корму, але каб гэты корм дапяў свае мэты, даючы шмат добрага мяса і сала. Ведама што ад азоцістых складнікаў корму прыбывае жывёле мяса, тады як угляводы разьвіваюць сала, з гэтага бачым, што прырост сала будзе лёгкім і скорым, калі жывёла для адкормкі умела выбрана, адкормка пачата ў добрую пару, а таксама умела трэба падбіраць і даваць корм і глядзець за чыстатой у сьвінярніках.

Вызначаныя дзеля аткормкі сьвіні, павінны мець гладкую і чыстую скуру, а шарсьціньне блiскучае і крэпкае. Трэба даглядзець, каб у сьвіней вочы былі ясныя і быстрыя і бадзёрны здаровы выгляд.

Выгаднейшай парой для адкормкі сьвіней будзе восень і пачатак зімы. У гэтую пару знаходзіцца ў дастатку рознага роду корму, а сьвіньні ў гэтую пару маюць лепшы апэтыт, бо не перашкаджаець ім сьпякота, каторую сьвіньні цяжка пераносяць. Ня толькі ў сьпякоту, але і ў звычайную цёплую пагоду сьвіньні ядуць мала і неахвотна. Адкормка сьвіней улетку ці вясной можаць быць карысная для гаспадара толькі каля вялікіх гарадоў, дзе круглы год ёсьць патрэба ў сьвежай сьвініне. Апрача таго, ў гэтую пару калі кормных свіней на кірмашох зусім бываець мала, яны даражэй у цане, так што аплачваецца большы расход і праца па адкормцы сьвіней у гэтую пару.

Як даваць корм сьвіньням і як маем даглядаць у часе адкормкі? Маладыя 4 — 6 месячныя парасяты, прадаваныя на кірмашох, зусім бываюць мала кормленыя. Для такіх парасят гатунак корму ня маець ніякага значэньня, абы гэтага корму было даволі. Тут можна даваць у корм усё, што пападзе пад рукі: кухонныя і сталовыя адкідкі, пам͡ыі, кіслаэ малако, сыраватку, вотрубы і інш., зьмешанае з бульбай і вараным ці сырым мясам, парэзаным дробнымі кусочкамі.

Адкормка сьвіней большых будзе труднейшая. Адкормка пачынаецца з карняплодаў, напрыклад бульбы, рэпы, грыпсыны, буракоў і, разваранымі у вадзе з мукой, жмыхамі і мясам.

Кабы у сьвіней заўсёды быў добры пазыў да ежы, трэба ў корм класьці штодня па 5—9 залатнікоў марской солі.

З пачатку кармленьня сьвіней, жалуды і каштаны гэтак сама ідуць у дзела, як і карняплоды. Завяршыць-жа кармленьне неабходна толькі адным збожжам: жытам, ячменем ці кукурузай, каторае даецца ў корм цалком, молатае, расьціснутае, варанае ці сырое. Некаторыя гаспадары даюць сьвіньням ў апошні пэрыяд адкормкі ў перамешку з мучным цестам, зернятаў. Зерне разваранае ці размолатае лепш пэратучаўляецца адкормліваемай жывёлінай, чым у сырым відзе, але калі сьвіней прывучым да зернятаў і будзем іх даваць сьвінням да апошніх дзён адкормкі ў сырох відзе, дык атрымаем сьвініну (мяса і сала) высокага гатунку.

Кукуруза зьяўляецца найлепшым кормам для сьвіней. Калі будзем карміць кукурузай атрымаем сала цьвёрдае і над'звычайна белае, што ад ячменнай ці жытняй мукі гэтага ў сьвіней не дасягаецца.

Пшаніца для адкормкі жывёлы ў нашай беларускай старонцы, па прычыне высокай цаны, мала ўжываецца. Хоця-ж ёсьць сяляне багацейшыя, каторыя моцна заінтэрасованы ў тым, каб давясьці сьвіней да апошняй граніцы адкормкі, ужываюць для гэтае мэты і пшаніцу. Калі-б хто пачаў даваць сьвіньням пшаніцу, дык трэба ведаць, што яе можна даваць сьвіньням куды меншую порцыю за іншы збажовы корм. Па прычыне цяжка варымага свойства пшаніцы і нязьменшаньня порцыі ў параўнаньні з другім збажовым кормам у першым выпадку можам сьвіньням пашкодзіць.

Самым танным збажовым кормам — ёсьць авёс, гарох і віка, каторым сяляне і адкормліваюць свае свіньні, хаця рэзультаты гэткае адкормкі атрымоўваем ня зусім добрыя. Але гдзе-ж набрацца сьвінньям чаго лепшага, калі і сабе прыходзіцца дамешваць да прыварку аўса, вікі ці гароху, а ў іншым разе і гэтага зьяўляецца нястача.

Авёс, гарох і віка для адкормкі сьвіней, могуць давацца, як абмешка бульбы, буракоў і інш. у першую чаргу кармленьня, бо ўжо падгледжаныя сьвіньні гэтых збажын есьці ня будуць, дык тады трэба даваць цеста з чыстай ячменнай мукі, высеянай праз густое рэшата, а ў перамежку даваць цалком ячмень, альбо жыта сухое ці паранае. Калі сьвіняні часам ні з таго ні з сяго губляюць апэтыт да ежы, пачынаюць рыць мяшанку вон з карыта, трэба сьвіньням дапь восьякіх лекаў? ў вядро насыпаем з гарнец аўса ці ячменю, перeслойваючы яго колькі раз жменькамі звычайнай солі і даць сьвіньням зьесьці. Посьля гэтага ў сьвіней апэтыт вяртаецца.

Агульныя правілы дзеля адкормкі свіней будуць вось якія: хлеў, дзе знаходзіцца адкормліваемая жывёліна, мусіць быць цеснаваты, суха пасланы і ня зусім цёмны. У дужа сьветлым хляве, а так сама у хляве, знаходзячымся бліз дарогі, дзе ходзяць і езьдзяць, нельга сьвіней зачыняць, бо-ж ведама кормныя сьвіньні любяць наеўшыся спаць, а сон ёсьць галоўным фактарам пасьпешнай адкормкі іх. Часам сьвіньні у хлявох пачынаюць рыць ямы, гэтага дапускаць нельга і зараз - жа кілзаць іх, бо лішняя рухомасьць шкодна на ўзрост сала.

Калі кормім сьвіньні ў пару зімовую, дык глядзем, каб хлеў быў цёплы. Летам стараймася, каб хлеў быў найсьцюдзёнейшы. З пачатку кармленьня даём сьвіньням 3—4 разы ежу ў дзень, а потым і пад канец толькі два разы, гэта знача каб сьвіньні кожны раз мелі добры смак у ежы.

Вялікую вагу маець уход за свіньнямі са стараны гігіенічнай. Раз у тыдзень трэба сьвіньні мыць і часаць шчоткай. Нехта зьдзівіўся-б, каб гэта зрабіў, што мыцьцё і часаньне сьвіней, адносна росту іх, даець гэткія неспадзяваныя рэзультаты! На гэтым і канчаем агляд адкормкі сьвіней.

*Янка Тарыкоў.*

## Як пазнаць жывую вагу сьвіньні.

Вымяраюць у цалях даўжыню тулава ад патылічнага грэбеня да кораня хваста і абхоп грудзей за пярэднімі нагамі. Атрыманыя лічбы перамнажаюць і дзеляць на дзесяць. Атрыманая лічба пасьля дзяленьня будзе раўняцца жывой вазе сьвіньні ў фунтах. Калі сьвіньня вельмі сытая, дык дзеляць не на дзесяць, а на дзевяць, а калі сьвіньня худая, дык дзеляць на 11.

# Гаспадарчыя парады.

### Рада на пацукі.

Адзін практычны гаспадар знайшоў хітры і быццам вельмі добры спосаб нішчыць пацукі. Дзеля гэтага трэба ўзяць бочку ад газы, наліць у яе вады вышынёю на $^1/_3$ часьць, пасьля накрыць бочку вялікім аркушам паперы, якую трэба ў сярэдзіне разрэзаць так, каб лініі порэзаў выглядалі, як паложаныя адін на адзін два крыжы: просты і косы, г. значыць, каб папера была разрэзана пасярэдзіне не да самых краёў перацяўшымі ў цэнтры адна адну чатырма лініямі. Над бочкаю падвешваецца кавалак сьвіное скуры якая прыпякаецца дзеля большага паху; скура павінна быць над сярэдзінай бочкі на гэткай вышыні, каб пацуком здавалася, што яны яе могуць дастаць (больш-менш на $^3/_4$ аршыны над бочкай). Каб пацуком лягчэй было лезьць на бочку (на паперу на ёй), дык трэба паставіць вузкую дошку так, каб пацукі маглі па ёй залазіць на бочку. Залезшы на паперу, пацукі падаюць у бочку, ня могуць вылезьці з яе і топяцца. Папера павінна быць таўставатая і обвязаная на бочцы, каб пацук ня бачыў ніякага выхаду. Піск пацукоў, якія будуць грызьціся ў бочцы, прываблівае іншыя пацукі. Як сьведчыць гэты гаспадар, за адну ноч утапілася гэтак 72 пацукі.

### Прадавайце гусі, адкарміўшы.

У некаторых мясцох чамусьці істнуе звычай прадаваць жывыя гусі. Падобны гандаль дае менш карысьці, чымся прадажа кормных гусей. Кормныя гусі прадаюцца даволі дорага, а падругое, танныя прадукты сельскай гаспадаркі, як морква, бульба і нават збожжа ў межах самай-жа гаспадаркі можна перавясьці ў каштоўны тавар — кормную гусяціну.

### Зьнішчайце прусакі ды тараканы.

Прусакі ды тараканы разносяць усялякія хваробы.

У нашых вёсках часам хварэюць людзі толькі дзеля таго, што ня пільнуюцца чыстаты. У некаторых у хаце бывае па калені гразі. У макраце разводзяцца розныя казюлькі, як прусакі.

Наш селянін на гэта мала зварочвае ўвагі. У некаторых гэта звычайнае зьявішча, калі тараканы, або прусакі лазяць па місцы. А гэтыя казюлькі вельмі шкадлівы.

Тараканы або прусакі — начныя казюлькі. Днём іх ня ўбачыш. Яны разносяць шмат хваробы сярод людзей.

Каб збавіцца ад гэтае брыды, дык трэба глядзець за чыстатою ў хаце. Трэба пільнавацца, каб у хаце было суха, бо прусакі якраз любяць жыць там, дзе мокра ў хаце. Разам з гэтым ня трэба трымаць у хаце нямытай пасуды.

А лякарства, якім можна зьніштожыць прусакі — зусім простае. Найлепш — гэта гнёзды прусакоў залівацъ варам.

Другі больш просты спосаб (з мае практыкі) — чэмер. Гэты самы чэмер расьце на паплавох разам з травою, дык яго трэба павыбіраць з сена (у пуні), насушыць, пацёрці на мак і зьмяшаць з чым-небудзь, ну, хоць сабе з кашаю. Да гэтага трэба дабавіць крыху цукру і на ноч расставіць у хаце.

# ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ.

Ад аднаго з нашых падпісчыкаў адтрымалі пісьмо гэткага зьместу, якое з дробнымі папраўкамі падаём:

*Паважаны Пане Рэдактар!*

Наш беларускі народ вельмі цёмны і забабонны. Ніякай работы не пачынае без забабонаў і не канчае яе без забабонаў, нікуды ня выйдзе і ня выедзе без забабонаў, і кожны паварот да хаты канцыцца забабонамі. Найболш забабонным зьяўляецца праваслаўны беларус. Маюць забабоны і беларусы-каталікі, але далёка менш, бо ксяндзы ўсялякія забабоны прасьледуюць, а „бацюшкі" часта самі вераць у забабоны. Але нашто Вы, Пане Рэдактар, пашыраеце забабоны, зьмяшчаючы ў сваёй часопісі „Беларускі Дзень" абвестку хіраманта на стр. 11 № 23. Кожны хірамант — гэта ашуканец, бо дарма выманьвае грошы ад нашага цёмнага брата — беларуса і ўзмацоўвае веру ў забабоны, а памагае яму Ваша газэта. Грошы за гэту абвестку, гэта грошы нашага гаротнага беларуса-сяляніна. Выкіньце гэту абвестку, яна пэўна выдрукавана без Вашага ведама і дазволу. Вашую газэту я даю чытаць усім суседзям і чытаю ўсім тым, хто чытаць ня умее.

З вялікай пашанай *В. З—к.*

Вёска Сенькаўшчына, Слонімск. павету.

## Ад Рэдакцыі.

Рэдакцыя годзіцца з вышэйнапісаным. Абвестка аб хіраманце Васілеўскім запраўды была зьмешчана *Адміністрацыяй* бяз ведама Рэдакцыі. Цяпер гэтая абвестка выкідаецца.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**М. Шарамэт.** Ваша корэспондэнцыя да друку не падходзіць. Правапіс выслалі.

**Радашкавічанін.** Корэспондэнцыю зьмесьцім.

**Л. Нечаю.** Пробных нумароў „Б. Культуры" не высылаем. Высылаем па адтрыманьні падпіскі.

**Я. Макоўскі.** Газэту высылаем, прысылайце корэспондэнцыі. Месячнік „Б. Культура" высылаем толькі па адтрыманьні падпіскі.

**Я. Цупрыя.** Газэту высылаем.

**К. Смалянка.** Газэту высылаем.

**Ст. Рагачу.** Грошы атрымалі, газэта з 15.IX.27 г. высылаецца.

**Паляк Язэп.** 3 зл. атрымалі.

**Астапчыку Мацею.** Газэта вам высылаецца. дамагайцеся на пошце.

**Янцы Самахвалу.** Пісьмо атрымалі, просьбу споўнім.



Рэдактар-выдавец Ф. Умястоўскі. „Друкарня Юзэфа Завадзкего в Вільне", вул. Сьв. Анны 3.